**Выдавец:**
ІП Уладзімір Скрабатун, пасведчанне №1156 ад 23.04.2004 г., выдадзена Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень,
дзень выхаду – чацвер,
выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 3 (355) 18 студзеня 2007 года. | Кошт 600 рублёў


Уверсе: Зламаныя дзверы пад'езда па вул. Леніна, 139.

Зламаная скамейка ля дома №41 па вул. Калініна.

Віктар Мікалаевіч Філіпенка, начальнік жылфонду Глыбоцкага УП ЖКГ

*Фота Я. Самсонава.*

**Хто ўтаймуе гэты «вецер» у галовах грамадзян: апошнім часам зламаныя – скамейка ля дома па вул. Калініна, 41, дзверы пад'ездаў па вул. Леніна, 139 і 139-А, вул. Калініна, 41 (2 і 4 пад'езды), вул. Міра, 3 і 5.**

## У Беларусі падвышаюцца закупныя цэны на малако і мяса

**У Беларусі падвышаюцца закупныя цэны на малако, свінняў і буйны рагаты скот, якія набываюць у сельгасвытворцаў для прамысловай перапрацоўкі, паведаміла карэспандэнту БелТА начальніца галоўнага ўпраўлення эканомікі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Ганна Андрыевіч.**

Адпаведная пастанова ўрада №1780 ад 30 снежня ўступіць у сілу са дня яго афіцыйнага апублікавання – з 11 студзеня 2007 года.

Закупныя цэны на малако ў сярэднім падвысяцца на 5%. У прыватнасці, малако вышэйшага гатунку будуць прымаць зараз па Br410 тыс. за 1 тону, першага гатунку – па Br382 тыс., другога гатунку – па Br245 тыс.

Закуп свінняў першай катэгорыі будзе вырабляцца па Br3473 тыс. за 1 тону, другой катэгорыі – па Br3358 тыс. На астатнія катэгорыі свінняў закупныя цэны не павялічваюцца.

Закупныя цэны на буйны рагаты скот вырастуць на 10%. Так, маладняк БРС вагай 400 кг і вышэй будзе прымацца па цане Br2923 тыс. за 1 тону, дарослы буйны рагаты скот вышэйшай укормленасці – па Br2360 тыс., маладняк вагай ад 350 да 399 кг – па Br2700 тыс. за тону.

Падвышэнне закупных цэнаў дазволіць часткова кампенсаваць выдаткі на вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі. У прыватнасці, павелічэння закупных цэнаў на буйны рагаты скот адмыслоўцы АПК патрабавалі даўно, бо яго вытворчасць стратна ўжо на працягу некалькіх гадоў. Дадзеная мера накіраваная на фінансавае аздараўленне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, што ва ўмовах падвышэння цэнаў на газ набывае ўсё большую актуальнасць, адзначыла Ганна Андрыевіч.

Нагадаем, з 1 сакавіка 2006 года закупныя цэны на малако былі павялічаныя ў сярэднім на 5%, з 23 жніўня на буйны рагаты скот – на 10% і свінняў – на 5%



## Полацкага маньяка прысудзілі да расстрэлу

**Да вышэйшай меры пакарання прыгаварыў 9 студзеня полацкі суд 28-гадовага серыйнага забойцу Юрыя Курыльскага. На сумленні гэтага маладога чалавека жыцці трох дзяўчын, адной з якіх было ўсяго 16 гадоў.**

Першую ахвяру Курыльскага выявілі яшчэ ў снежні 2004 года ў Глыбоцкім раёне, каля вёскі Булахі. Тое, што гэтая дзяўчына стала ахвярай серыйнага забойцы, стала ясна, калі праз год з розніцай у месяц у Полацкім раёне знайшлі яшчэ два трупы. Як высветлілі эксперты, незадоўга да смерці ўсе тры забітыя дзяўчыны ўступалі ў палавую сувязь з адным і тым жа мужчынам.

Кавалера-забойцу дапамагла выкрыць чорная «Волга», на якой ён запрашаў дзяўчат пакатацца. Такіх аўтамабіляў, як расказаў следчы па адмыслова важных справах Полацкай пракуратуры Яўген Гуляеў, налічваецца не так ужо і шмат. Праверыўшы ўсе машыны, праваахоўныя органы выйшлі на злачынцу. Курыльскі быў жанаты, працаваў апаратарам на «Нафтане». Пры вобыску ў яго выявілі нож са слядамі крыві адной з ахвяраў. Плямы крыві іншай дзяўчыны знайшлі ў салоне той самай «Волгі»… Юрый Курыльскі сваю віну не адмаўляў, але і растлумачыць следчаму, чаму ён забіваў дзяўчат, толкам не змог. Паўтараў нешта аб тым, што яны не дэманстравалі належнай да яго павагі. «На глебе раптам узніклых непрыязных дачыненняў» – напісана ў прысудзе.

Эксперты прызналі серыйнага забойцу псіхічна здаровым. У сваім апошнім слове ён папрасіў прабачэнні ў сваякоў забітых дзяўчат. А калі зачытвалі прысуд, чамусьці ўсміхаўся, паведамляе «КП у Беларусі».

# Вечныя манаскія шлюбы ў Докшыцах

Кастусь Шыталь
*г. Докшыцы*

**27 снежня 2006 года ў докшыцкім касцёле Найсвяцейшай Тройцы два манахі-капуцыны - брат Андрэй Кваціцнскі і брат Алег Шэнда склалі вечныя манаскія шлюбы. Яны далі ўрачыстае абяцанне да канца сваіх дзён жыць у чыстасці, беднасці і паслухмянасці, наследуючы самога Езуса Хрыста і святога Францішка, заснавальніка манаскай супольнасці Меншых Братоў Капуцынаў. Шлюбы былі складзены перад віцэправінцыялам ордэна капуцынаў на Беларусі а. Марэкам Пасютам. На ўрачыстасць вечных шлюбаў сабралася шмат святароў, братоў-капуцынаў, а таксама вернікаў мясцовай парафіі.**



Браты Алег Шэнда (злева) і Андрэй Кваціцнскі перад урачыстым складаннем вечных шлюбаў. *Фота Кастуся Шыталя.*



Ляжанне крыжам перад алтаром – абавязковы элемент такой урачыстасці. *Фота Касутся Шыталя.*

Напярэдадні гэтай падзеі аўтар гэтых радкоў сустрэўся з братам Андрэем Кваціцнскім, каб задаць яму некалькі пытанняў для "Вольнага Глыбокага".

(К.Ш.:) – ***Якой была Вашая дарога да пакликання? Што прымусіла Вас уступіць у ордэн капуцынаў?***

(бр. А. Кваціцнскі:) – Калі нараджаецца чалавек, у Бога ўжо гатовы для яго план. І толькі тады, калі ён рэалізуе гэты план так, як хоча Бог, то будзе шчаслівы. На працягу апошніх гадоў мы адкрылі, што нашае прызначэнне – гэта служба Богу. У нейкай ступені гэта служба народу - таму народу, у які мы будзем накіраваныя, незалежна ад таго, ці гэта будзе Беларусь, Польшча, ці, напрыклад, Афрыка. Пакуль што браты з Беларусі працуюць у большасці ў Беларусі, бо тут вялікія патрэбы. Наступствы дзесяцігоддзяў камунізму і духоўнае спусташэнне народа патрабуюць вельмі шмат працы: трэба працаваць з людзьмі, несці ім святло Евангелля. Мы будзем прыкладаць усе сілы, каб наступіла духоўнае адраджэнне народа.

Мая дарога паклікання была даволі цікавая. Напачатку жыццё рэлігійнае ў мяне асабіста было не вельмі глыбокім, у касцёл хадзіў мала. Але потым уздзеянне Бога было якоесьці асаблівае. Увогуле, кожнае паклíканне мае цікавую і непаўторную дарогу. Гэта проста якоесьці ўнутранае перажыванне, якую людскімі словамі вельмі цяжка акрэсліць.

(К.Ш.:) – ***Ці складана было Вам адмовіцца ад простага, свецкага жыцця?***

(бр. А. Кваціцнскі:) – Калі Бог прызначыў для мяне менавіта такую дарогу, то маё шчасце будзе менавіта тут, у ордэне капуцынаў. Толькі тут я буду шчаслівым. І таму адмовіцца ад жыцця ў сям'і, якое для кагосьці таксама з'яўляецца Божым паклíканнем, прыгожым і ўзнёслым, не было для мяне цяжкім. Канечне, чалавек часам сумуе, але веданне таго, што я ахвяраваўся Богу і хачу належаць толькі Яму, дадае сілы.

**Фотавітрына «Вольнага Глыбокага»**

# Дамы пад чарапічнымі дахамі – 1

Уладзімір Скрабатун

Мне згадваецца сярэдзіна 1980-ых гг. Я тады, па скончэнню навучальнай установы і па "ўсесаюзнаму" размеркаванню, працаваў прарабам у Латвіі. Прыязджаю на колькі дзён у Глыбокае. Бачу афішу – "Свята вуліцы Маскоўскай". Месца правядзення свята была пляцоўка ў раёне ДОСААФ. Прыйшоў. На сцэну падняўся спадар Роммель, тады, здаецца, парторг мясакамбіната. Ён распавёў пра тое, як цяжка жылося глыбачанам пад прыгнётам польскіх паноў. Немагчыма, маўляў, было прайсці па горадзе без гумовых ботаў. Паўсюдна гразь па калена, лужыны і саламяныя стрэхі.

І мне прыгадалася, што абсалютна тое ж самае, на пяць гадоў раней, я чуў не ў Глыбокім, а ў Мінску. Вясновым днём 1977 года я, тады навучэнец Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, прыйшоў у рэдакцыю бюлетэня "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" і прапанаваў свой артыкул "Глыбокае на старых паштоўках". Супрацоўнік рэдакцыі Ілля Клаз уважліва разглядзеў мой іканаграфічны матэрыял – каляровыя арыгіналы паштовак з відарысамі глыбоцкіх вуліцаў, храмаў, школы, пошты – і на ўсё гэта вельмі аўтарытэтна заявіў: "Такія здымкі мы не можам надрукаваць! Навошта. У вас да рэвалюцыі ў Глыбокім жылі лепш, чым цяпер! Дзеля чаго тады было рабіць рэвалюцыю? Паглядзіце самі, што вы нам прынеслі? Брукаваныя вуліцы, ходнікі, дамы крытыя дахоўкаю, людзі ў цыліндрах. Не! Такія здымкі мы апублікаваць не можам! Нам патрэбна, каб былі саламяныя стрэхі, пахілыя дамы, вокны забітыя дошкамі, гразь і лужыны на вуліцах…" І на развітанне, параіў: "Напішыце тэкст, а здымкі – мы самі знойдзем!". Рэдакцыя, па іроніі лёсу, знаходзілася ў Мінску па вул. Рэвалюцыйная, 13.

***Працяг будзе.***



**г. Глыбокае. Пляц 3-га Траўня. 1930-ыя гг.** Фота Леанарда Рачыцкага



**г. Глыбокае. Пляц 17-га Верасня. Студзень, 2007 год.** Фота Ул. Скрабатуна.

# Ёсць што прапанаваць

На "Мінскім мэблевым салоне" у мінулым годзе сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю **ЗОВ-ЛенЕўрамэбля"** атрымала дыплом "За забеспячэнне беларускага рынку якаснымі таварамі", у **гэтым годзе** перамагло ў намінацыі "Суадносіны кошту і якасці", некалькі год запар на конкурсах на лепшага прадпрымальніка прызнаецца такім ў Гродна, вобласці і краіне, мае шматлікія ўзнагароды прэстыжных міжнародных выстаў і, галоўнае, прызнанне пакупнікоў.

Сёння інвестыцыйныя праекты гродзенскіх вытворцаў мэблі падтрымліваюць расійскі, польскі, нямецкі, ізраільскі, італьянскі капіталы. Ім ёсць што прапанаваць пакупніку. Ды куды ж больш новыя і разнастайныя! Матэрыялы – ад натуральнага дрэва і знакамітай сціплай ДСП да сучасных МДФ, пастформінгу, сартформінгу. З МДФ для фасадаў кухні прапануюць тут: МДФ фарбаваны (матавы і перламутравы); МДФ рамачны, можна з рознымі ўстаўкамі ці без іх; пакрыты плёнкай ПВХ усіх колераў вясёлкі.

Шкло празрыстае, "пад бронзу", рыфлёнае, шклопескаструй, з вітражамі, можна з тымі і іншымі, ды яшчэ ў алюмініевай рамцы ці...

Арыгінальная фурнітура і аксэсуары, неабмежаваныя магчымасці дызайнерскіх рашэнняў ад "добрапарадкавай класікі да мадэрну" дазваляюць сёння ЗОВ-ЛЕНЕўрамэбля выпускаць каля тысячы розных фасадаў кухні, у якіх не знойдзецца "блізнят"!

Модульная сістэма з некалькіх дзесяткаў навясных шаф (вітрын, сушак, пеналаў) і не меншай колькасці шаф-сталоў(сталоў-паліц, шуфляд, бутэлечніц і г. д.), якія стыкуюцца адзін з адным, дае магчымасць пакупніку выбраць патрэбныя і скласці асабістую мэблевую кампазіцыю, якая ўпісваецца ў асаблівасці жылля, яго памеры і густ. Прамысловая, пастаўленая на паток вытворчасць, ставарае ў выніку ілюзію штучнага, непаўторнага тавару.

Шырока выкарыстоўваюцца модулі і ў вырабе корпуснай мэблі – сценак, якія выпускае ЗОВ-ЛенЕўрамэбля. Асартымент іх здаецца, невялікі – 9 "з імёнамі" ("Даніїл", "Оскар", "Вікторыя") і... модульная сістэма "XXI стагоддзе" з 20 базавых элементаў. Яна дае мноства варыянтаў для афармлення інтэр'еру!

Калі карацей: сёння прадпрыемства "ЗОВ" выраблююць усё, што ёсць на беларускім мэблевым рынку і тое, чаго ў іншых няма. Напрыклад, няма аналагаў сценцы "Мілена" з гнутым акруглым шклом. На жаль, гэту шматколерную прыгажосць можна ўбачыць толькі ў каталогах і на сайце – выставачныя ўзоры.

**Акрамя кухань, сценак, яны выраблюць** шафы, сталы, стулы, абедзенныя зоны, прыхожую.

Заказаць гэтую мэблю можна і ў нас па адрасу: г. **Глыбокае, вул. Леніна, 44, гандлёвы цэнтр "Для Вас".**





# За моцную сям'ю і трывалы шлюб

**Агульнавядома, калі ў сям'і лад і згода, то ўсе жыццёвыя цяжкасці, якіх, на жаль, хапае ў нашым жыцці, пераадольваюцца значна лягчэй. Сям'я - гэта ячэйка грамадства, і чым мацней ячэйка, тым мацней грамадства.**

■ **Яўген Самсонаў,** *тэкст і фота*

Аўтар гэтых радкоў сумесна з начальнікам аддзела ЗАГС Глыбоцкага райвыканкама Валянцінай Вайцехаўнай Саковіч пазнаёміць чытачоў газеты "Вольнае Глыбокае" са статыстычнымі дадзенымі, чытачы атрымаюць адказы на розныя хвалюючыя пытанні, пазнаёмяцца з цікавымі і павучальнымі гісторыямі з сямейнага жыцця. Будзем разам! Спадзяёмся на вялікую актыўнасць чытачоў, бо ў кожнага з нас былі розныя неардынарныя сітуацыі – цікавыя і захапляючыя, жартоўныя і наадварот, вельмі сумныя. На жаль, здараюцца ў жыцці такія выпадкі, калі закаханы чалавек становіцца ахвярай мярзотніка ці драпежніцы, якія спекулююць і топчуць святыя і светлыя пачуцці, нахабна выкарыстоўваюць іх у сваіх карысных мэтах.

Выліць душэўны боль, які доўга носіць чалавек у сваім сэрцы – тэма далікатная, таму ананімнасць гарантуецца. Будзем задаволены, калі магчыма гэта рубрыка пасадзейнічае каму-небудзь з чытачоў разабрацца ў заблытаных жыццёвых становішчах, дапаможа быць пачутымі і зразумелымі іншымі, бо паразуменне і раўнавага – вялікія жыццёвыя каштоўнасці.

На здымку: начальнік аддзела ЗАГС Глыбоцкага райвыканкама Валянціна Вайцехаўна Саковіч.

# Мая жыццёвая пазіцыя застаецца ранейшай

Завяршыліся эмацыянальныя ўсплескі з нагоды выбараў у мясцовыя саветы. Кандыдатам у дэпутаты ў Глыбоцкі раённы савет народных дэпутатаў па Мінскай выбарчай акрузе №7 быў і аўтар гэтых радкоў. Вельмі ўдзячны сваім выбаршчыкам, якія мяне падтрымалі. Асабіста Віктару Бахіру, Людміле Ільінчык і іншым выбаршчыкам, якія мяне падтрымалі і дапамаглі выявіць парушэнне: замест бюлетэняў, у якіх было маё прозвішча і прозвішча майго апанента, ім выдаваўся бюлетэнь з прозвішчамі іншых кандыдатаў у дэпутаты. Аб гэтым парушэнні аўтар гэтых радкоў напісаў заяву ў адпаведную інстанцыю.

Згодна вынікаў падліку галасоў участковай выбарчай камісіяй участка для галасавання №3, дэпутатам раённага савета стаў Максім Леанідавіч Гірдзюк. Ён набраў на 58 галасоў больш, з чым яго і віншую. 3 798 выбаршчыкаў Мінскай выбарчай акругі №7 па г. Глыбокае прынялі ўдзел у галасаванні 460 грамадзян, за М. Л. Гірдзюка аддалі галасы 210 выбаршчыкаў, за Я. Р. Самсонава – 152 галасы.

Мая жыццёвая пазіцыя застаецца ранейшай – я гатовы дапамагаць людзям у любой сітуацыі, быць мастом паразумення паміж уладай і кожным грамадзянінам, незалежна ад яго веравызнання, перакананняў і партыйнай прыналежнасці. Звяртайцеся. Будзем разам!

*З павагай Я. Самсонаў*

## ІМЯНІНЫ

**18 студзеня**
**Пр.:** Яўгенії, Іосіфа, Рыгора.
**К.:** Малгажаты, Хрысціны, Багуміла, Пятра.

**19 студзеня**
**Пр.:** ВАДОХРЫШЧА (Багаяўленне –Хрышчэнне Гасподняе).
**К.:** Марты, Сары, Браніслава, Генрыха, Юзафа.

**20 студзеня**
**Пр.:** Іаана Хрысціцеля.
**К.:** Людмілы, Мілы, Люцыяна, Себасьяна, Фабіяна.

**21 студзеня**
**Пр.:** Васілісы, Антона, Віктара, Георгія, Емяльяна, Іллі, Міхаіла, Рыгора, Сідара.
**К.:** Агнешкі, Інесы, Аўгуста, Людвіка, Яраслава.

**22 студзеня**
**Пр.:** Піліпа, Пятра, Яўстрата.
**К.:** Анастасіі, Вікторыі, Віктара, Вінцэнта, Даменіка, Мацея.

**23 студзеня**
**Пр.:** Анатоля, Макара, Паўла, Рыгора.
**К.:** Марыі, Фернанды, Раймунда, Яна.

**24 студзеня**
**Пр.:** Мікалая, Міхаіла, Уладзіміра, Фёдара.
**К.:** Мілены, Феліцыі, Эрыкі, Рафала, Роберта, Фелікса, Францішка, Цімафея.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Якутский эпос | Металл | | | | | | | |
| | | | | Девичья краса | | Двучлен | Слуга | Переводчик | |
| | Передняя часть головы человека | Река в Западной Африке | | | | | | | |
| | | | | Стеклянный сосуд для лекарства | | Испарина | | Ветвь хвойного дерева | |
| | Конечность | | Сорт вишни | | | | | | |
| | | | | | Удар в боксе | | | | |
| Автор текста "Интернационала" | Горный массив в Греции | | Положение в шахматах | | | | Пахотное орудие в Средней Азии | | Торчащий вихор |
| | | | | | Парнокопытное животное | Многолетний лед в полярных водах | | | |
| Европейская национальность | | Бродячий торговец | Прибалтийская столица | | | | | Заразная кожная болезнь | |
| | | | Буква кириллицы | | Алкогольный напиток из сока пальм | | | | |
| Коптить ... | | | | | Налог в странах ислама | | | | Английский композитор |
| Обрыв у берега моря | | | Рыба семейства карповых | | | | | | |

**Ответы на сканворд №2**
**По горизонтали:** Кобальт. Лицо. Сенегал. Нога. Ампула. Олимп. Омач. Пат. Потье. Пак. Рига. Чех. Арак. Небо. Ушр. Яр. Тарань. **По вертикали:** «Олонхо». Коса. Бином. Толмач. Грум. Гриот. Апперкот. Пот. Лапа. Офеня. Парща. Кок. Гаур. Хер. Арн.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень



**АВЕН.** Канец месяцовага цыкла ў пачатку тыдня можа выклікаць некаторыя праблемы, аднак пры правільных паводзінах усяго гэтага можна пазбегнуць. Тым больш што зоркі – асабліва Марс у Казярогу – дапаможа Авенам не зніжаць набраны тэмп. Вы зможаце паспяхова пераадолець усе перашкоды, узнікшыя на шляху да мэты. Менавіта зараз вельмі важна адстойваць сваю пазіцыю, не згінацца, трымацца да апошняга. Паколькі прыхільнасць зорак спрыяльна скажацца на кемлівасці і рэакцыі, то варта ўсё гэта выкарыстаць, пакуль астатнія знакі задыяку разгойдваюцца. Бліжэй да канца тыдня ўзмацніцца вашая пачуццёвасць. Вас пацягне кахаць і займацца гэтым як мага часцей. Не адмаўляйце сабе ў задавальненнях. Тым больш што дачыненні з каханым чалавекам зараз на годнай вышыні.



**ЦЯЛЕЦ.** Работа навалілася і прыгнечвае непасільнай ношай? Так гэта ж добра. Значна горш, калі б гэтай работы зусім не было. Пазбегнуць нагрузак не атрымаецца, а вось прасачыць за ўласным здароўем варта. Не шкадуйце грошай на садавіну, якая з'явіліся ў продажы. Пабольш бывайце на свежым паветры – назапашвайце кісларод. Сабранасць і дакладная адзнака акружаючых – вашыя самыя адданыя сябры. Заручыцеся падтрымкай блізкіх і родных.



**БЛІЗНЯТЫ.** Памылкі ў панядзелак могуць быць фатальнымі, а сваркі прывесці да разрыва адносінаў. Таму, не прыспешвайце гаварыць у лоб усё, што вы думаеце. Зрабіце паўзу, а лепш зусім вазьміце тайм-аўт. Да серады ваш гнеў пацішэе, захочацца хатняй утульнасці, ласкі з усімі вынікаючымі наступствамі. Падумайце, што будзе, калі ваш каханы будзе ўсё яшчэ злавацца на вас? Крыўдна? Так што не ўскладняйце сабе жыццё. У другой палове тыдня рэкамендуецца паводзіць сябе смялей, больш рашуча, рызыкаваць, калі запатрабуецца. Чым больш актыўнасці вы зараз выявіце, тым больш шанцаў, што ў вас атрымаецца тая справа, аб якой вы ўвесь гэты час марылі.



**РАК.** Ракам новы тыдзень не абяцае якіх-небудзь засмучэнняў, хаця настрой хутчэй будзе мінорным. Ганіце ад сябе смутак-нуду і больш баўцеся. Інтуіцыя падкажа, дзе могуць хавацца праблемы, таму вам будзе прасцей абыходзіць бокам складаныя сітуацыі. На гэтым тыдні вам могуць сніцца прарочыя сны, часцей звяртайцеся да іх інтэрпрэтацыі па сонніку. У другой палове тыдня могуць адкрыцца таямніцы, магчыма, выплыве на свет божы тое, што вы даўно хаваеце. Будзьце асцярожней.



**ЛЕЎ.** Пасля святаў вашае матэрыяльнае становішча патрабуе карэкцыі, магчыма, менавіта зараз не перашкодзіць пабочны заробак. Бярыцеся за любую работу, абы яна прыносіла грошы. У першай палове тыдня вы можаце адчуць некаторую агрэсію, накіраваную на калегаў і дамашніх. Магчымыя сваркі і праблемы на рабоце. Супакойцеся і вазьміце сябе ў рукі. Не ў вашых інтарэсах зараз псаваць дачыненні з начальствам. Выхадныя – час, калі трэба адпачываць па поўнай праграме. Устройце свята сабе і сваім блізкім.



**ПАННА.** На новым тыдні Паннаў стане вабіць усё містычнае. Вас будуць цікавіць праблемы жыцця і смерці, будзьце асцярожней і сцеражыцеся месцаў масавага знаходжання людзей: абыходзьце бокам тыя месцы, якія не выклікаюць даверу. Калі захочаце даведацца нешта аб сваёй будучыні, звяртайцеся толькі да прафесіяналаў. Некаторая рассеянасць і абыякавасць могуць паўплываць негатыўна на ваш лёс, імкніцеся правяраць любую сумнеўную інфармацыю. Да канца тыдня магчыма паступленне грошай з дадатковых крыніцаў.



**ШАЛІ.** На новым тыдні ў Шаляў складзецца лжывае ўяўленне, што іх недаацэньваюць. У сувязі з гэтым узмацніцца ахвота вылучыцца і паказаць свае лепшыя якасці. Усё гэта добра, але ці не задужа вы захапляецеся? Так, безумоўна, вы заслужылі пахвальбу і прызнанне, але менавіта на новым тыдні як раз і не варта адрывацца ад калектыва. Значна лепш для вас зараз працаваць у камандзе, а не супрацьпастаўляць сябе ёй.



**СКАРПІЁН.** Скарпіёнам варта заняцца пераглядам сваіх дачыненняў з каханым чалавекам. Падумайце над тым, з якой нагоды вы ў апошні час яго крыўдзілі або самі крыўдзіліся на яго. Ці не варта пачаць ладзіць дачыненні? Вас чакаюць перамены, магчыма гэты перыяд пачнецца наўпрост на гэтым тыдні. Наведайце, нарэшце, урача, прыслухайцеся да ўласнага здароўя, папіце полівітаміны. І не будзьце гэтак патрабавальныя да каханага чалавека.



**СТРАЛЕЦ.** На новым тыдні Стральцы змогуць з галавой ахунуцца ва ўласныя пачуцці. Пытанні кахання будуць стаяць, мабыць, на галоўным месцы. Калі вашыя дачыненні з каханым здаюцца вам злёгку... м-м-м... запыленымі, то не спяшайцеся ставіць на гэтых дачыненнях крыж. Новы тыдзень дапаможа абнавіць гэтыя дачыненні, ажывіць іх. Калі ж вашае сэрца ўсё яшчэ вольнае, то ў вас ёсць усе шанцы пачаць новы файны раман. Нудзіцца не прыйдзецца. Паколькі ўсе пачуцці будуць абвостраныя, варта, не губляючы часу, укласці частку гэтай энергіі ў творчасць.



**КАЗЯРОГ.** Увесь тыдзень Казярогі будуць вырашаць пытанні, якія звязаныя з грашамі. Шлюбныя кантракты, пытанні спадчыны, назыкі пад заклад маёмасці – вось такімі разнастайнымі пытаннямі трэба займацца. Беражыцеся неспадзяванак у грашовых справах, а калі нешта тэрмінова вырашаеце, то напярэдадні дакладна ўсё праверце і падрыхтуйцеся. Не выключаныя буйныя выйгрышы ў латарэю, пастарайцеся толькі, каб рызыка ў выпадку азартных гульняў усё ж была апраўданая. Крайнасці могуць прывесці да непапраўных вынікаў, так што не даводзьце справы да абсурда. Самакантроль і самадысцыпліна – лепшыя сябры на гэты тыдзень.



**ВАДАЛЕЙ.** У пачатку новага тыдня Вадалеі будуць маруднымі, рассеянымі і неактыўнымі. Як жа сябе прымусіць працаваць, калі надвор'е за акном такое няўстойлівае? Акрамя таго, і зоркі не раяць праяўляць бурлівую дзейнасць – магчымыя сваркі, звады, разлады. З другой паловы тыдня многае зменіцца. Работа ссунецца, з'явяцца перспектывы. Менавіта зараз трэба пашыраць прафесійныя сувязі. У канцы тыдня можа здарыцца паездка або камандыроўка.



**РЫБЫ.** Новы тыдзень – добры перыяд у жыцці Рыбак. Вас чакае ўдача, трэба толькі прыкласці высілкі. Чакаюцца вандраванні, прыгоды, каханне, ажыццяўленне задуманага. Смялей бярыцеся за справы. Праўда тыдзень пачнецца не задужа паспяхова – магчымыя сваркі і разлады, але ведаючы гэта, вы зможаце пазбегнуць небяспекі. У сярэдзіне тыдня вас чакаюць прыемныя неспадзеўкі або неспадзяваныя весткі. У выхадныя прысвяціце час узмацненню ўласнага здароўя.

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

"Вольнае Глыбокае" Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 1156 ад 23.04.2004 г. выдадзена Глыбоцкім РВК
тэлефон / факс: (02156) 2 46 14;
E-mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800 г. Глыбокае п/с 3



Наклад 2500 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 16 студзеня 2007 года ў 20[35]

Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк. Замова № 150